# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г.

Чацвер, 26 мая 1994 года | № 54 (10754) | Цана 100 руб.





■ Палітычны барометр

## Справа за выбаршчыкамі

Аб тым, што дзень выбараў першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь не за гарамі, цяпер здагадаюцца нават тыя, хто прынцыпова не чытае газет, не слухае радыё, ігнаруе тэлепраграмы навін. Справа ў тым, што ў рэспубліцы завяршылася ўтварэнне ўчасткаў для галасавання, а калі на будынку, скажам, школы паяўляецца шыльда, якая ўказвае, што тут размешчаны выбарчы ўчастак, складана не зразумець, што "час настаў".

Для тых, хто жадае ажыццявіць свае грамадзянскае права прыняць удзел у выбарах кіраўніка дзяржавы, абсталявана 6713 участкаў для галасавання, дзе будзе працаваць 70206 чалавек, не лічачы назіральнікаў. Праўда, як растлумачылі карэспандэнту Белінфарма ў Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта, толькі адзін з членаў участковых выбарчых камісій з'яўляецца вызваленым работнікам і атрымлівае заработную плату.

Складанне спісаў выбаршчыкаў яшчэ не завершана, таму можна толькі прыблізна сказаць, колькі грамадзян рэспублікі маюць права прыняць удзел у выбарах.

## Найбольш актыўныя — гараджане

Прагназіраваць вынікі праверкі падпісных лістоў за вылучэнне кандыдатамі ў прэзідэнты тых або іншых палітычных лідэраў сёння не асмельваецца ніхто, але таго, што усялякіх агрэхаў і недакладнасцей хапае, у выбарчых камісіях не ўтойваюць. Гэта і нядзіўна, таму што ў ініцыятыўных групах па збору подпісаў увогуле працавала каля трыццаці тысяч чалавек, і калі ў кожнага хоць бы у адзін ліст "закралася" памылка, то не складана падлічыць, колькі лістоў прыйдзецца анулявацъ.

На цяперашнім этапе больш за ўсё работы ў членаў раённых камісій па выбарах у гарадах. Паводле папярэдніх ацэнак, 25-30 працэнтаў тых, хто прыняў удзел у вылучэнні кандыдатамі ў прэзідэнты - гэта жыхары абласных цэнтраў.

## Расшчодрыліся ... на дэфіцыт

На паперы, якая выдзелена урадам Цэнтральнай камісіі для друкавання выбарчых бюлетэняў, газета "Знамя юности" поўным тыражом магла б выходзіць амаль месяц. У прывілеяваным становішчы будуць і кандыдаты ў прэзідэнты, ім таксама не прыйдзецца ламаць галаву, на чым надрукаваць лістоўкі і плакаты, таму што Савет Міністраў выдзеліў паперу і на гэтыя мэты. Кошт яе будзе вылічвацца з сумы, прызначанай кожнаму з кандыдатаў на правядзенне агітацыйнай кампаніі.

Як удалося высветліць карэспандэнту Белінфарма, пошукам друкарні прэтэндэнтам на прэзідэнцкую пасаду прыйдзецца займацца самім. И калі па нейкіх прычынах такі заказ не будзе прыняты, дапамагчы ніхто не зможа.

## Сітуацыя застаецца напружанай

Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў Інфармацыйнай службе Партыі народнай згоды /ПНЗ/, яшчэ тры народныя дэпутаты: Барыс Савіцкі, Уладзімір Валчэцкі, Аляксандр Спіглазаў звярнуліся з заявай у Цэнтральную камісію аб адкліканні сваіх галасоў, аддадзеных за прэтэндэнта ў кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду Генадзя Карпенку. Як вядома, 16 мая лідэр фракцыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады ў беларускім парламенце аб'явіў аб тым, што 9 дэпутатаў ад фракцыі адклікаюць свае подпісы. Такім чынам, у Генадзя Карпенкі на сённяшні дзень застаецца 65-66 галасоў народных дэпутатаў. ПНЗ стала вядома, што ў ходзе праверкі спіса выбаршчыкаў Фрунзенскага раёна горада Мінска прызнана несапраўднымі каля чатырох тысяч подпісаў выбаршчыкаў. Усяго ініцыятыўная група Генадзя Карпенкі сабрала 110 тысяч подпісаў грамадзян.

*БЕЛІНФАРМ.*

## "МАРСКІЯ КАМЕНЬЧЫКІ" ПА-УЗДЗЕНСКУ

**Пробная партыя дражэ з"явілася днямі ў фірменным магазіне камбіната кааператыўнай прамысловасці "Гарачы хлеб".**

Выпуск гэтай папулярнай салодкай прадукцыі асвоілі кандытары хлебазавода. Даволі памяркоўны кошт "каменьчыкаў" — 6.780 рублёў за кілаграм, выдатныя смакавыя якасці адразу прыкмецілі пакупнікі. Ласунак разышоўся імгненна.

Дарэчы, "марскія каменьчыкі" — гэта адзін з 40 відаў прадукцыі, якую выпускаюць сёння кандытары камбіната. У майскія святы работнікі кандытарскага цэха парадавалі дзяцей і ўсіх ласуноў смачнымі пернікамі "Дзяцінства".

Увогуле ж, кандытары выпускаюць за дзень звыш 400 кілаграмаў рознай прадукцыі. Гэта адно з нямногіх падраздзяленняў, якое не толькі захавала тэмпы вытворчасці, а і знаходзіць шляхі нарошчвання яе аб"ёмаў. У гэтым немалая заслуга энергічнага кіраўніка камбіната А.Шэдава. А таксама кандытараў М.Берасневіч, Т.Рак, С.Дзесюкевіч — вытворцаў ласункаў, майстроў сваёй справы.

*Святлана МІХАЙЛОЎСКАЯ. Уздзенскі раён.*

## ТУІ І БЛАКІТНЫЯ ЕЛКІ

**Даўно забудаваўся шматпавярховымі дамамі цэнтр калгаса "17 верасня" Нясвіжскага раёна — вёска Высокая Ліпа. На тутэйшых вуліцах пастаянна падтрымліваецца парадак.**

Сёлета, напрыклад, нялёгка ў гаспадарцы з фінансамі, але абнаўленне ідзе па-ранейшаму. Перакладзены пліткаю тратуары, зроблены клумбы. На газонах пасеяна маладая трава, завезены для пасадкі дэкаратыўныя дрэвы: туя, айва і блакітныя елкі.

Акрамя таго, калгас паклапаціўся пра мясцовую школу. Драўляны плот вакол яе замянілі на металічны. У вёсках, дзе падведзены газ, заасфальтаваны вуліцы. Вуліцы астатніх населеных пунктаў апрануцца ў асфальт пасля таго, як будуць газіфікаваны.

*Раіса Хвір.*

## У ЭКСПАЗІЦЫІ — ФАЛЬКЛОР

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адкрылася выстава "Фальклор". Яе экспазіцыя прымеркавана да маючага адбыцца сёлета ў нашай рэспубліцы Міжнароднага фестывалю фальклору.**

Увазе наведвальнікаў прапануюцца абрады, якія найбольш поўна характарызуюць беларусаў і адрозніваюць нас ад суседзяў-славян. Гэта — Каляды, валачобныя песні і рытуалы, Купалле, вяселле, радзінны абрад і Дзяды. Сярод прадстаўленых экспанатаў — фотаздымкі слынных фальклярыстаў Раманава, Федароўскага, Нікіфароўскага, Дабравольскага, Сержпутоўскага, Насовіча, Карскага, Шэйна, Шырмы, Цітовіча, Чачота, дакументы, звязаныя са збіральніцкай дзейнасцю Даленгі-Хадакоўскага, аўтографы запісаў фальклорных твораў Гарэцкага, Шырмы, кнігі, у розныя гады выдадзеныя гэтымі і іншымі збіральнікамі народных скарбаў. Наведвальнікам выставы дадзена магчымасць пазнаёміцца з картай, на якой адлюстравана распаўсюджанне тых ці іншых абрадаў у межах этнічнага рассялення беларусаў. Жадаючыя могуць убачыць самі абрады і пачуць адпаведныя песні, што стала магчымым дзякуючы выкарыстанню відэазапісаў.

Арганізатары выставы "Фальклор" спадзяюцца, што экспазіцыя прыцягне ўвагу не толькі спецыялістаў, навукоўцаў, студэнтаў, але і шырокіх колаў грамадскасці, усіх людзей, хто неабыякава ставіцца да роднай культуры, яе багатых набыткаў і невычэрпных скарбаў.

*Лада ВОЙНІЧ.*

## "ХМЯЛЬНЫЯ" ПОДПІСЫ

У падтрымку сваіх кандыдатаў усе ініцыятыўныя групы Салігорска сабралі 10.749 подпісаў. З іх гарадская камісія па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прызнала несапраўднымі 1.491 подпіс — каля 14 працэнтаў.

— Найбольшая колькасць "праколаў" выяўлена ў лістах, дзе фіксаваліся прыхільнікі А.Кальцова — прэтэндэнта ад Партыі аматараў піва, — расказвае старшыня камісіі І.Купрэйчык. — З 84 пададзеных лістоў несапраўднымі прызнаны 23, з 535 подпісамі. У першую чаргу таму, што вельмі часта за некалькіх асоб распісвалася адна рука.

Звяраць подпісы камісія запрасіла вопытнага эксперта-графолага, які паспяхова займаўся гэтым пры падвядзенні вынікаў выбараў у адной з афрыканскіх краін. Да праверкі былі таксама прыцягнуты работнікі пашпартнага стала. Члены камісіі хадзілі па кватэрах, каб высветліць сапраўднасць падазроных подпісаў. Цікава, што з асаблівай ахвотай прыхільнікі БНФ правяралі дакументацыю тых, хто выступае на баку В.Кебіча, В.Новікава. І наадварот.

Дзесяць лістоў з подпісамі на карысць Л.Козіка ануляваны ў першую чаргу таму, што ў іх распісваліся асобы ва ўзросце да 18 гадоў. Найбольш акуратна афармляліся дакументы ў падтрымку С.Шушкевіча, таму страты тут мінімальныя.

*/Наш кар./.*

## Большасць — за В.Кебіча

Учора прайшло пасяджэнне Мінскай абласной камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. На ім былі падведзены вынікі збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнню кандыдатаў на гэтую пасаду. У вобласці працавала 16 ініцыятыўных груп, якія займаліся зборам подпісаў. У раёнах і гарадах на працягу дзесяці дзён правяралася іх дакладнасць. У гэтай рабоце ўдзельнічалі таксама члены абласной выбарчай камісіі. У выніку быў устаноўлены 1.571 несапраўдны падпісны ліст. А ў іх 31.575 подпісаў прызнаны несапраўднымі. Былі выяўлены факты, калі за аднаго выбаршчыка падпісваўся другі, калі ставіліся ў лістах выдуманыя прозвішчы або подпісы збіралі не члены ініцыятыўных груп, а па іх просьбе — іншыя грамадзяне. У цэлым жа сітуацыя з кандыдатамі ў Прэзідэнты склалася наступная. Больш за ўсё подпісаў сабраў В.Кебіч — 59.092. За ім ідуць В.Новікаў — 32.305, З.Пазняк — 23.955, Г.Карпенка — 17.579, А.Дубко — 14.110, С.Шушкевіч — 13.525 і А.Лукашэнка — 10.522.

На пасяджэнні была заслухана інфармацыя аб рабоце вытворча-тэхнічнага аб"яднання сувязі па падрыхтоўцы да выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*/Наш кар./*

■ Спажывецкая кааперацыя

## ІНШАГА НЕ ДАДЗЕНА

**Не дужа даўно часта ўжывалася фраза: падсобная гаспадарка — не другарадная. У тым, што гэта так, маглі ўвачавідкі пераканацца ўдзельнікі пасяджэння праўлення аблспажыўсаюза ў Маладзечанскім раёне.**

Свінаферма пабудавана тры гады назад у зручным, маляўнічым месцы каля вёскі Рашаткі, разлічана на 500 галоў. Тут створаны належныя ўмовы працы для жывёлаводаў, адладжана кормазабеспячэнне. І нездарма сутачныя прывагі кормнікаў перавышаюць 350 грамаў. За першы квартал на свінаферме атрымана 75,3 тоны мяса. Многа гэта ці мала? Параўнайце: па ўсёй сістэме аблспажыўсаюза яго паступіла 337 тон, а ў Мінскім, Уздзенскім, Вілейскім райспажыўсаюзах — па 3-4 тоны.

Таму меў рацыю старшыня аблспажыўсаюза Я.П.Баравой, адкрываючы выязное пасяджэнне праўлення, падкрэсліўшы, што ўсё заключаецца ў стаўленні да справы. Гэтая пасылка вызначыла змест і форму размовы. Была яна вострая, часам нават жорсткая, але абгрунтаваная, прынцыповая. Яшчэ ж у студзені вобласць лідзіравала ў рэспубліцы па тэмпах агульнага тавараабароту, потым пакрысе пачала здаваць пазіцыі, і цяпер горшыя мае толькі Гродзеншчына. А калі дадаць сюды і эканамічны вынік, то малюнак атрымаецца зусім несуцяшальны: гандаль прынёс страт на 4 мільярды 133 мільёны рублёў.

Наогул, праблема рэнтабельнасці па сістэме няўмольна паўстала на поўны рост. Многія прадпрыемствы, нават цэлыя галіны апынуліся на мяжы банкруцтва.

— А што ў такім выпадку рабіць? — задаў рытарычнае пытанне старшынствуючы. — Спачатку мяняюць кіраўніцтва, а калі і гэтая мера не дала станоўчага выніку, пускаюць прадпрыемства "з малатка". Выходзіць, што такі незайздросны лёс чакае ўсё грамадскае харчаванне, якое прынесла за чатыры месяцы 114 мільёнаў рублёў страт.

Вядома, прычын падобных хібаў шмат. Не заўсёды яны на сумленні кааператараў. Але характэрна, што ўдзельнікі пасяджэння не шукалі вінаватых "з боку", не спасыласіся на надзвычайную эканаміча-палітычную сітуацыю, а аналізавалі ўласныя пралікі. Як было падкрэслена: працэсам трэба кіраваць, а не наглядаць за ім. Дзе-нідзе ігнаруюць залатое правіла гандлю: прапаноўвай пакупніку тое, што яму патрэбна, вывучай попыт! У Клецку ж залезлі ў такі хамут да наваўленых камерсантаў, што і сёння не ведаюць, як выбрацца з яго. Давялося вызваляць ад пасады намесніка старшыні райспажыўсаюза па гандлю. А цана падобнай неразваротлівасці — 154 дні па аблспажыўсаюзу. Столькі часу некаторыя тавары знаходзяцца ў гандлёвай сетцы. Проста запоўніць прылаўкі — не праблема. Хутчэй прадаць іх, каб мець прыбытак і сродкі на набыццё новых тавараў, — вось задача! Не новая, але Я.П.Баравому даводзілася не раз напамінаць пра яе: "Браць тавары абы браць — не трэба. Тут павінны сваё важкае слова сказаць таваразнаўцы, камерцыйныя службы. Сёння яны не на ўзроўні. Дзе аналіз таварных рэшткаў, дзе дакладная арыентацыя на попыт? Няма. Вось і атрымліваецца як у той прымаўцы: "Папраў, кум, каты лезуць. Папраравіў — сабакі скачуць"...

Хаця ў сістэме ёсць добры прыклад — Мінскі гаркаапгандаль. Тут наогул не карыстаюцца рабаўніцкімі крэдытамі банка. Тавары бяруць невялікімі партыямі, але разнастайныя. Непасрэдна ад вытворцаў, аптовых пастаўшчыкоў. Структура рэалізуемых тавараў і кан'юнктура рынку — галоўныя складаемыя рэнтабельнасці.

Аблспажыўсаюз апынуўся ў цяжкім становішчы. Але, як паказала расшыранае пасяджэнне праўлення, яно не безнадзейнае, выйсце ёсць. І тут, як заўсёды, патрэбны дысцыпліна, арганізаванасць, адказнасць. Іншага не дадзена.

*Архітэктары Валожына скіравалі сваю дзейнасць на распрацоўку праекта індывідуальнай забудовы. Такія праекты ўсё больш патрабуюцца ў наш час, калі буйныя аб"екты фінансаваць становіцца ўсё цяжэй. Архітэктары, акрамя распрацоўкі катэджаў, таксама аказваюць насельніцтву кансультацыйную дапамогу па планаванню прысядзібнай зоны, размяшчэнню гаспадарчых будынкаў.*

***На здымку:** новыя праекты абмяркоўваюць архітэктары С.Селятыцкая, Г.Бразоўская, В.Патапаў.*

*Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.*

## ЦЭНТРАМ УРАЧЫСТАСЦЕЙ БУДЗЕ МІНСК

Пад старшынствам першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета В.Кузняцова адбылося чарговае пасяджэнне Рэспубліканскай камісіі па падрыхтоўцы да святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Адзначалася, што падрыхтоўка да ўрачыстасцей праходзіць арганізавана. Юбілейныя мерапрыемствы пройдуць 2-3 ліпеня ва ўсіх гарадах Беларусі. Своеасаблівым цэнтрам урачыстасцей стане Мінск. Сюды прыедуць дэлегацыі з многіх краін блізкага і далёкага замежжа, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, удзельнікі вызвалення Беларусі. Адбудзецца ўскладанне вянкоў і кветак да манументаў на плошчы Перамогі, "Мінск - горад-герой", На Кургане Славы, мемарыяльным комплексе "Хатынь", у іншых памятных месцах.

У Палацы мастацтва адкрыецца мастацкая выстаўка, прысвечаная 50-годдзю вызвалення Беларусі. Завершыцца абнаўленне экспазіцыі ў Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Дзесяткі творчых калектываў падрыхтавалі ўжо да юбілейных урачыстасцей новыя музычныя праграмы, з якімі яны выступяць як на канцэртных пляцоўках, так і на імправізаваных сцэнах. У дні святкавання адбудуцца спартыўныя спаборніцтвы і тэатральныя прадстаўленні.

На пасяджэнні камісіі разглядаліся пытанні арганізацыі сустрэчы дэлегацый і груп ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, правядзення ўрадавага прыёму і ўрачыстага сходу, прысвечанага 50-годдзю вызвалення Беларусі, якое адбудзецца ў сталіцы рэспублікі.

*БЕЛІНФАРМ.*



■ Сацыяльны ракурс

## АЎТОБУСНЫЯ ПАКУТЫ

**Хто з нас не перажывае іх, калі трэба паехаць куды-небудзь? Першая думка: як сесці ў аўтобус, асабліва на прыгарадных маршрутах? І яшчэ непакоіць: ці прыйдзе ён на прыпынак? Бо амаль кожны дзень нас "радуюць" інфармацыяй аб адмене тых ці іншых рэйсаў. Маўляў, аўтамабілісты нясуць адны толькі страты, паколькі павышэнне кошту праезду не кампенсуе затрат на паліва, энерганосьбіты і іншыя матэрыялы.**

Так, на "прыгарадзе" летась у першым квартале дзейнічалі 432 аўтобусныя маршруты, сёлета — 393. Скарачэнне на 9 працэнтаў — здаецца, не так ужо і многа. Але ж затое выканана на 31 працэнт рэйсаў менш. У гарадах вобласці закрыты тры маршруты, а колькасць рэйсаў упала на 23 працэнты.

Вядома, падобнае становішча не задавальняе людзей, выклікае ў іх хвалю пратэсту. І Савет Міністраў прымае рашэнне аб дадатковых мерах па паляпшэнню абслугоўвання насельніцтва пасажырскім транспартам. Павялічваецца колькасць мясцовых пасажырскіх паяздоў (электрычак), гарадскіх, прыгарадных і міжгародніх аўтобусных маршрутаў. Беларускі дзяржаўны канцэрн па нафце і нафтапрадуктах абавязаны ў прыярытэтным парадку забяспечваць пасажырскі транспарт палівам па рэгулюемых цэнах.

Пенсіянеры атрымалі права сёлета ездзіць бясплатна ў электрычках, у гарадскіх і прыгарадных аўтобусах.

Многія, з кім давялося гутарыць, лічаць гэтае рашэнне прапагандысцкім крокам урада. Бо ў рашэнні не ўказваецца, за кошт якіх крыніц фінансавання ажыццявіць намечанае. Усё перакладваецца на мясцовыя Саветы. Яны абавязаны са свайго бюджэту, які і так трашчыць па ўсіх швах, выдзеліць неабходныя сродкі. Значыць, развітвайся тады з некаторымі сацыяльнымі праграмамі. У сувязі з гэтым некалькі лічбаў для роздуму.

Для пакрыцця страт на прыгарадных аўтобусных перавозках аб'яднанню "Мінскаблаўтатранс" выдадзена за першы квартал 3 мільярды рублёў датацый, а на гарадскіх — 2,8. Такім чынам кампенсавана 76,9 працэнта расходаў на "прыгарадзе" і 60,8 — у горадзе.

Узнікае пытанне: як выкруціцца ў даным выпадку? Рашэнне ж Саўміна трэба выконваць. Аб гэтым разважалі і ўдзельнікі нарады, якая адбылася ў аблвыканкоме. Пагадзіліся на тым, што райгарвыканкомы сумесна з аўтапаркамі павінны адшукаць магчымасць для павелічэння на 10 працэнтаў колькасці маршрутаў за кошт іх фінансавання з мясцовага бюджэту. Фінансавае ўпраўленне аблвыканкома, фінаддзелы райгарвыканкомаў абавязаны своечасова выдзяляць датацыі на аўтобусныя перавозкі, прадугледжаныя ў абласным і мясцовых бюджэтах. А кіраўнікам аб'яднання і аўтапаркаў — забяспечыць рэгулярнасць руху аўтобусаў на маршрутах, а таксама прыняць меры па эканоміі і беражлівасці на аўтатранспарце, узмацніць кантроль на лініях за зборам выручкі, бяспекай руху, рацыянальным выкарыстаннем выдзяляемых бюджэтных сродкаў, расшырэннем пазапрофільнай падсобна-дапаможнай дзейнасці. І не трэба ім рэзкае пагаршэнне абслугоўвання насельніцтва пасажырскім аўтатранспартам звязваць з адным толькі ростам цэн на гаруча-змазачныя матэрыялы. Расходы ж на паліва ў агульнай суме затрат склалі за першы квартал па гарадскіх маршрутах — 35,8 працэнта, а прыгарадных — 42,7. А вось накладныя расходы пацягнулі адпаведна на 25,9 і 22 працэнты, зарплата — 21,9.

Неразбярыха і з тым, што лічыць прыгарадным маршрутам. Чаму вызначана яго адлегласць у 50 кіламетраў? Дарэчы, даўным-даўно. Калі ж чалавек едзе ў тым жа перапоўненым аўтобусе на 51 кіламетр, то ўжо плаці як на міжгароднім рэйсе. Парадокс? Ды яшчэ які, і пазбаўляцца ад яго не збіраюцца. Пакуль што канкрэтных крокаў не відаць, хаця Міністэрства транспарту просіць, каб яму прадаставілі права самому вызначаць гранічную адлегласць па прыгарадных маршрутах. Аб гэтым просіць і аблвыканком. Ці будзе пачута Саветам Міністраў яго просьба і наконт таго, каб Мінфін хутчэй вырашыў пытанне аб дадатковым выдзяленні бюджэтных сродкаў для датацый пасажырскаму аўтатранспарту? Інакш ад прынятага ўрадам рашэння да яго рэальнага ўвасаблення атрымаецца вялікая дыстанцыя.

*Пётр Сідаровіч.*

**Працягваецца падпіска на "Мінскую праўду" на трэці квартал 1994 года. Падпісная цана — 6000 рублёў.**

## Вытворчасць мяса ў гаспадарках вобласці

*за 4 месяцы г.г.*

Графы: 1 — раёны, 2 — валавая вытворчасць мяса /тыс.тон/, 3 — вытворчасць мяса на 100 га сельгасугоддзяў /цэнтнераў/, 4 — валавая вытворчасць да адпаведнага перыяду мінулага года /у працэнтах/, 5 — атрымана ялавічыны ўсяго /у працэнтах/, 6 — на комплексах /у працэнтах/, 7 — атрымана свініны ўсяго /у працэнтах/, 8 — на комплексах / у працэнтах/.

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Слуцкі | 2,8 | 27,0 | 127 | 134 | 288 | 88 | 94 |
| Мядзельскі | 1,4 | 26,0 | 127 | 130 | 108 | 106 | 123 |
| Капыльскі | 3,4 | 32,0 | 121 | 134 | 180 | 103 | 110 |
| Дзяржынскі | 2,0 | 34,0 | 117 | 114 | 165 | 116 | 114 |
| Стаўбцоўскі | 2,1 | 23,0 | 116 | 124 | 166 | 105 | 95 |
| Маладзечанскі | 1,8 | 34,0 | 112 | 117 | 123 | 106 | 111 |
| Салігорскі | 2,2 | 23,0 | 110 | 115 | 116 | 102 | 93 |
| Крупскі | 1,2 | 18,5 | 109 | 109 | 72 | 104 | 108 |
| Лагойскі | 1,6 | 22,0 | 106 | 121 | 75 | 89 | 93 |
| Клецкі | 2,0 | 41,0 | 105 | 108 | 92 | 111 | 122 |
| Барысаўскі | 5,5 | 24,5 | 105 | 121 | 126 | 99,6 | 98 |
| Любанскі | 1,9 | 24,0 | 105 | 117 | 74 | 81 | 36 |
| Вілейскі | 2,2 | 29,0 | 104 | 128 | 117 | 72 | 57 |
| Пухавіцкі | 2,5 | 26,0 | 100 | 98 | 99 | 93 | 100 |
| Чэрвеньскі | 1,6 | 22,5 | 100 | 109 | 86 | 74 | 77 |
| Валожынскі | 1,3 | 18,5 | 100 | 101 | 71 | 94 | 79 |
| Старадарожскі | 1,0 | 21,5 | 100 | 97 | 44 | 81 | 87 |
| Смалявіцкі | 1,6 | 28,5 | 100 | 111 | 58 | 87 | 117 |
| Мінскі | 2,9 | 36,0 | 96 | 109 | 109 | 82 | 84 |
| Бярэзінскі | 1,1 | 18,0 | 92 | 99,7 | 145 | 84 | 85 |
| Нясвіжскі | 3,0 | 52,0 | 91 | 98 | 74 | 82 | 85 |
| Уздзенскі | 1,8 | 21,0 | 90 | 107 | 98 | 80 | 77 |
| Па вобласці | 47,1 | 28,0 | 105 | 114 | 104 | 92 | 93 |

■ "ПРЯМАЯ ЛИНИЯ"

# ЧЕКИ «ИМУЩЕСТВО»: ЧТО ОНИ ДАЮТ НАМ?

**Рыночные законы вносят в нашу жизнь всё новые элементы. Вот и теперь государство выдает именные приватизационные чеки "Имущество". С их помощью мы сможем купить акции конкретного предприятия и стать таким образом его совладельцами, получая на них определенный процент прибыли. В области имеют право на получение этих чеков 1.288.400 человек. Из них на 15 мая уже обратились в комиссии /их в области создано 381/ с заявлениями о начислении чеков 216.842 человека. Исполкомы местных Советов утвердили списки на 24.231 человека, которым начислено 1.550.784 чека.**

**Чеки, акции, сертификаты — понятия для нас новые. Многие не знают, как распорядиться этими чеками, куда их пристроить. Поэтому редакция, желая помочь жителям Минщины разобраться в некоторых вопросах, организовала 17 мая "прямую линию" с начальником областного управления по разгосударствлению и приватизации государственного имущества Федором Аникеевичем МУРАВЬЕВЫМ.**



* * *

***— Федор Аникеевич, здравствуйте. Я временно работаю в территориальной комиссии в г.Молодечно. Своей фамилии называть не буду, но очень прошу дать обстоятельный ответ на мой вопрос. В комиссию обратился инвалид Великой Отечественной войны в возрасте 78 лет. Необоснованно репрессирован, а затем реабилитирован. У него вклад в сбербанке по состоянию на 1 января 1991 г. в сумме 10,5 тыс.рублей и не использованные после приватизации квартиры остатки чеков "Жилье" на 1180 рублей. При выходе на пенсию имел трудовой стаж 48 лет, кроме этого работал еще три года будучи на пенсии. Сколько он должен получить приватизационных чеков?***

— Давайте подсчитаем вместе с Вами.

В зависимости от возраста ему положено 50 чеков, от трудового стажа — 48 + 3 = 51, дополнительно, как инвалиду войны — 30 и как необоснованно репрессированному, а затем реабилитированному — 10 чеков, за вклад в сбербанке — 20, обмен остатков чеков "Жилье" на чеки "Имущество" /1180 : 120/ = 10. Вот и получается, что ваш уважаемый ветеран получит 171 чек.

***— Звонят из Любани. Вот такая ситуация. Гражданин подал заявление на получение чеков "Имущество". Квота начислена и введена в компьютер сбербанка. После этого он вторично обратился в территориальную комиссию с просьбой учесть неиспользованные чеки "Жилье". Как быть?***

— В этом случае первое заявление и соответственно начисленное количество приватизационных чеков аннулируются. Гражданин должен подать второе заявление, и затем вновь производится начисление квот с учетом всех документов.

***— Второй вопрос. Муж у гражданки умер 31 июля 1993 года. Можно ли ей получить причитавшиеся ему приватизационные чеки?***

— Нет, нельзя, так как право на их получение у граждан Республики Беларусь появилось с 3 августа 1993 года.

***— Шайханов Николай Егорович, из Борисова. Можно ли вместо чеков получить деньги?***

— Нет. Вам выдаются именные приватизационные чеки и их надо использовать по прямому назначению. Можете свои чеки перечислить на счета специализированных инвестиционных фондов / но сначала уточните, имеют ли они лицензию на работу с чеками/, чтобы приобрести акции или доли государственных объектов. Кстати, в Мингосимуществе имеется заявление представителей Борисова на получение лицензии инвестфонда.

***— Могу ли за чеки "Имущество" выкупить дачный участок?***

— Нет, не можете.

***— Здравствуйте! Я работаю на Молодечненской мебельной фабрике. Сначала мы были на аренде, в конце прошлого года приватизировали предприятие. Половина оценочной стоимости государственного имущества, как нам сказали, зарезервирована для оплаты приватизационными чеками. Меня интересует, будет ли ограничение для работников фабрики на количество доли имущества, оплачиваемой чеками?***

— Да, будет. Работник предприятия сможет вложить на своем предприятии не более 120 чеков, что равно приобретению имущества на 3 миллиона рублей.

***— А если я не обменяю все чеки "Имущество" на акции, то смогу ли получить компенсацию за неиспользованные?***

— Статья 13 Закона "Об именных приватизационных чеках Республики Беларусь" гарантирует владельцам неиспользованных чеков их погашение по истечении срока обращения. Для погашения чеки могут быть предъявлены по месту их выдачи или Национальному банку. Сумма компенсации будет зависеть от количества неиспользованных чеков и их стоимости на момент окончания выдачи по Республике Беларусь.

***— Бармин Семен Назарович. Здравствуйте. Окончил техникум, работаю в Минске. Недавно женился и живу в общежитии. Мои родители живут в Борисове и два года назад выкупили государственную квартиру за деньги. Если они подарят мне неиспользованные чеки "Жилье", смогу ли я обменять их на имущественные?***

— Если бы Ваши родители не имели возможности для целевого использования чеков "Жилье", то подаренные Вам можно было бы обменять на чеки "Имущество". А поскольку такая возможность у них была, но они ею не воспользовались, то вам нельзя произвести обмен чеков "Жилье" на чеки "Имущество".

***— Звонят из Несвижа. Скажите, пожалуйста, как будет организована продажа акций за именные приватизационные чеки?***

— Орган приватизации или по его поручению фонд /агентство/ заключают договоры с акционерным обществом на основании предварительного сбора заявок. Распределение акций будет производиться через пункты продажи, на аукционных торгах и т.д. Чековые счета для продажи акций физическим лицам будут открываться и в учреждениях сберегательного банка. Акции можно приобрести и в специализированных инвестиционных фондах.

***— Чем отличаются привилегированные и льготируемые акции от обыкновенных?***

— Владелец привилегированных акций имеет преимущественное право на дивиденды в размере не менее установленного процента от номинальной стоимости акции. Независимо от того, получена прибыль или нет.

Льготируемые акции выдаются членам трудового коллектива, преобразованного в акционерное общество. Они продаются им на 20 процентов ниже номинальной стоимости. Пакет таких акций определяется органом приватизации.

***— Здравствуйте, беспокоят из Мяделя. Я работал на Севере. У меня имеется вклад в сбербанке России. Могу ли его поменять на чеки "Имущество"?***

— Нет, не можете. Дополнительные чеки "Имущество" начисляются гражданам Республики Беларусь на вклады, которые хранятся в сбербанках республики.

***— Из Слуцка беспокоят. Скажите, входит ли в трудовой стаж время отбывания наказания в местах лишения свободы?***

— Нет, не входит.

***— Звонок из Минска. Приватизируется арендное предприятие. Какую форму оно получит и можно ли создать при этом коллективное предприятие?***

— Действующее законодательство не определяет правовых принципов создания и деятельности коллективных /народных/ предприятий. В процессе приватизации арендного предприятия оно может быть преобразовано в открытое акционерное общество в соответствии с положением, утвержденным постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 16 августа 1993 г. № 552.

Предприятие, сданное в аренду, может быть приватизировано путем выкупа арендованного имущества, если в договоре аренды, заключенном до вступления в силу Закона "О разгосударствлении и приватизации государственной собственности в Республике Беларусь", оговорены порядок, условия и сроки выкупа этого имущества. В этом случае может быть создано общество с ограниченной или дополнительной ответственностью.

***— Рабцевич Тереза Домениковна, из Столбцов. Здравствуйте. Могу ли я приватизационные чеки использовать для выкупа государственной доли имущества не в Столбцах, а, скажем, в Минске? У нас ничего не приватизируется.***

***И еще вопрос: можно ли завещать и дарить чеки? И что будет, если я потеряю их? Восстановят ли их мне?***

— Вы не совсем правы. Управлением "Минскоблгосимущество" только что завершена работа в Столбцах по приватизации базы "Агромашзапчасть". На именные чеки там зарезервирована государственная доля имущества на несколько миллиардов рублей. Но, несмотря на это, на свои чеки Вы имеете право приобрести акции или долю государственного объекта на всей территории Республики Беларусь, в том числе и в Минске.

Вы имеете право дарить и завещать чеки в установленном законом порядке.

Чеки потерять невозможно, поскольку имущественная квота отделением сбербанка заносится на открываемый на Ваше имя специальный /чековый/ счет. На руки же вам выдается сертификат. В случае его утери Вам придется обращаться в отделение сбербанка за выдачей дубликата, за что необходимо уплатить госпошлину. Правда, ее размер пока не определен. Так что лучше ничего не терять.

***— Фарбер Борис Ефимович, читатель "Мінскай праўды", житель г.Минска. Получают ли дополнительные чеки "Имущество" инвалиды Советской Армии II группы по общему заболеванию? Ограничено ли количество приватизационных чеков?***

— Уважаемый Борис Ефимович! Инвалидам Советской Армии по общему заболеванию начисление дополнительных чеков законом не предусмотрено.

Для того, чтобы конкретно ответить, сколько Вам положено чеков как инвалиду Советской Армии, назовите, пожалуйста, свой возраст.

***— Я 1920 года рождения.***

— Спасибо. Вам положено дополнительно 50 чеков как инвалиду. Общее количество приватизационных чеков не ограничивается.

Аналогичные вопросы были и от других жителей области. Разъясняем: участник войны имеет право на получение дополнительно 15 чеков, а инвалид войны — 30. Если же они были репрессированы, а затем реабилитированы, то еще по 10 чеков. Узнику фашистского концлагеря положено дополнительно 15 чеков. Столько же — и вдове погибшего мужа-партизана, если она не вступила в новый брак.

Ряд вопросов повторялись, на некоторые отвечаем без указания конкретного лица.

***Людей интересует, что делать с чеками "Жилье", которые остались после выкупа квартиры.***

Их можно обменять на чеки "Имущество" — жилищная квота в рублях делится на коэффициент 120.

Чеки не начисляются на ребенка, который родился после 3 августа 1993 года. Если у ребенка в возрасте до 16 лет имеется в сбербанке вклад на 1.01.91 года, то он присоединяется к вкладу родителя, которому начисляются его чеки.

Опекун не освобождается от уплаты госпошлины.

Для получения чеков за годы работы после выхода на пенсию нужно предоставить справку из фонда социальной защиты.

Справку о составе семьи необходимо предоставлять, если есть дети, и только тому родителю, на которого будут начисляться чеки "Имущество".

Право на приобретение акций на льготных условиях имеют:

работники госпредприятия, преобразованного в акционерное общество;

бывшие его работники, проработавшие на нем не менее 10 лет — мужчины и 7 — женщины и уволенные по уважительной причине;

лица, имеющие право по закону на возвращение или восстановление на прежней работе;

работники, вышедшие на пенсию с приватизированного предприятия.

***— Сколько чеков начисляется детям-инвалидам, а также инвалидам с детства?,*** — спрашивают нас.

— Детям-инвалидам в возрасте до 16 лет начисляется:

при наличии родителей — 10 чеков;

в случае смерти или лишения родительских прав одного из родителей — 30 чеков;

на ребенка, оставшегося без родительской опеки и находящегося в опекунской семье, доме семейного типа или в детском интернатском учреждении, его законному представителю — 50 чеков.

Инвалидам I и II групп с детства, независимо от их возраста, начисляется 50 чеков.

**Редакция выражает благодарность Федору Аникеевичу Муравьеву за участие в "прямой линии". Думается, что у жителей области возникнет еще немало вопросов, связанных с именными чеками "Имущество", приватизацией. С ними вы можете обращаться в редакцию или областное управление по разгосударствлению и приватизации, а также звонить по телефонам: 68-25-43 /редакция/, 24-35-91 /облуправление/.**

*Материалы "Прямой линии" подготовил к печати Петр Сидорович.*

## Маладзечанскія навіны

### ГАРАДСКІ ТЭЛЕКАНАЛ

Ўжо сёлета, напэўна, пачне работу. Аб гэтым паведаміў мясцовым журналістам дырэктар нядаўна створанай у Маладзечне тэлекампаніі «Піянер ТК» А.В.Грыгор"еў. Акцыянернае таварыства закрытага тыпу «Піянер» стала яе стваральнікам.

Мяркуецца, што максімальны аб"ём тэлевяшчання можа скласці 12 гадзін. Асаблівая ўвага, адзначыў А.В.Грыгор"еў, будзе ўдзяляцца інфармацыйным і кансультацыйным праграмам, рэкламе, асвятленню работы гарадскіх службаў.

### У КАТОЛІКАЎ БУДЗЕ ХРАМ

Гэтае месца ў скверы паблізу кінатэатра «Радзіма» знаёмае многім маладзечанцам. Многія з надзеяй і чаканнем пазіраюць на ўсё больш выразныя абрысы будынка касцёла. Будаўнічыя работы тут выконвае МПМК-210 аб"яднання «Маладзечнасельбуд». Вялікую дапамогу аказваюць самі парафіяне. Як грашовымі сродкамі, так і непасрэдным удзелам у будаўніцтве. Наогул жа пастаяннай крыніцы фінансавання работ не існуе. Касцёл узводзіцца за кошт добраахвотных ахвяраванняў людзей і арганізацый, а таксама банкаўскай пазыкі.

### У БАГАТЫХ — СВАЕ ДЗІВАЦТВЫ

Не год, не два збірала грошы жыхарка Германіі фраў Хобішд, а можна сказаць, усё сваё свядомае жыццё. Калі на рахунку з'явілася дастатковая, на яе погляд, сума, звярнулася да дэлегацыі Міжнароднага Чырвонага Крыжа, якая адбывала ў беларускі горад Маладзечна, з некалькі незвычайнай просьбай. Яна папрасіла кіраўніка дэлегацыі Уда Гідэ знайсці на Маладзечаншчыне жанчыну, якая б згадзілася на накопленыя ёю сродкі набыць для сябе гурт авечак, даглядаць іх з сям"ёй і карыстацца плёнам сваёй працы.

Уда Гідэ з дапамогай маладзечанскіх сяброў справіўся з далікатным даручэннем. Такая жывёлаводка знайшлася.

Члены дэлегацыі паведамілі, што пасля ўзгаднення пытання з нямецкай фраў яны вернуцца ў чэрвені з грашыма для незвычайнай фермы.

*Марыя КУЗАЎКІНА.*





*Буйнейшая ў рэспубліцы трусаферма на 500 галоў ёсць у калгасе "Слабодскі" Старадарожскага раёна. Далейшае развіццё падсобнага промыслу прадугледжвае выраб скур, тушонкі, вэнджанне мяса, пашыў шапак і паўкажушкаў.*

***На здымках:*** *начальнік падсобнай гаспадаркі Роберт Сагаманян; агульны выгляд трусафермы.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ У партыях і рухах

# НЕ МІФЫ,

## а справядлівасць, роўнасць, дэмакратыю прапагандуюць у ходзе прэзідэнцкай перадвыбарнай кампаніі камуністы Салігоршчыны

**Новай газетай горад шахцёраў не здзівіш. Дзевятай па ліку стала "Наш путь" — газета камуністаў раёна. Выданне, прама скажам, незвычайнае. Некалькі аддрукаваных на машынцы артыкулаў-заметак, падклееныя выразкі з іншых газет. I ўсё гэта перазнята на ксераксе ў лічаных экземплярах...**

I ўсё ж, як кажуць, газета ўбачыла свет. А гэта значыць, што камуністы Салігоршчыны напамінаюць аб сабе, імкнуцца пашырыць сферу свайго ўздзеяння, павялічваць рады.

— Валянцін Іванавіч, — пытаю ў сакратара райкома Партыі камуністаў Беларусі В.І.Шчарбіна. — Ваша газета — усур"ёз і надоўга?

— Аб нейкай строгай перыядычнасці выхаду выдання гаварыць сёння нельга, — адказаў ён. — Бо мы не маем сродкаў на самае элементарнае, не кажучы ўжо пра дарагую паперу, друкарскія расходы. Але стараемся выпускаць газету як мага часцей. Асабліва ў час правядзення важных палітычных кампаній.

Сёння галоўны клопат салігорскіх камуністаў — выбары Прэзідэнта Беларусі. Мы выступаем у падтрымку свайго кандыдата, сакратара ЦК ПКБ, сустаршыні Народнага руху Беларусі В.М.Новікава. Не сакрэт, што перамагчы на выбарах будзе не так проста. Якія ж будуць далейшыя дзеянні камуністаў?

— Гавару выключна толькі за сябе, — папярэдзіў В.І.Шчарбін. — Сімпатыі выклікае і Лукашэнка. Падабаецца яго байцоўскі характар. Кебіч не заслугоўвае даверу хаця б за тое, што яго ўрад прывёў рэспубліку да крытычнага стану, да збяднення мільёнаў і ўзбагачэння дзесяткаў. А камуністы, як і раней, змагаюцца за роўнасць, справядлівасць, свабоду. Дарэчы, на гэтай платформе мы не адны. У Салігорску створаны каардынацыйны камітэт Народнага руху Беларусі, які ўзначальвае дырэктар завода зборнага жалезабетону А.У.Мельнічук. У яго, акрамя нас, уваходзяць члены партыі Славянскі сабор "Белая Русь", гарадская арганізацыя ЛКСМБ, "Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць", ветэранская арганізацыя. Думаю, усе гэтыя сілы аддадуць свае галасы за кандыдата, які дасць слова змагацца за інтарэсы народа, за сацыялістычны выбар. Салігорскія камуністы па-ранейшаму вераць сваім высокім ідэалам.

Мы не можам спакойна глядзець, як кучка часцей за ўсё несумленных людзей узбагачаецца за кошт людзей працы, — гаворыць далей Валянцін Іванавіч, — як знішчаюцца правы на працу, адукацыю, медыцынскае абслугоўванне. А тое, што гэта вялікія заваёвы нашага народа, прызнавалі і на Захадзе, і на Усходзе... Мы лічым сваім абавязкам прадстаўляць інтарэсы гэтых людзей, усіх працоўных у органах улады, абараняць іх.

Наконт падтрымкі... Сапраўды, мала хто згодзіцца, каб вярнуўся той час, калі першы сакратар райкома партыі даваў указанні, як, у якія тэрміны сеяць, каго выбіраць у Саветы, у суды...

Зразумела, дыктатура з боку некаторых партыйных кіраўнікоў павагі ў людзей не выклікала. У свой час я быў сакратаром партарганізацыі саўгаса, інструктарам райкома. I бачыў усё гэта, можна сказаць, знутры.

Увогуле, аб манаполіі на ўладу. Выступаем як партыя парламенцкага тыпу. Пры сённяшняй шматпартыйнасці аб нейкай дыктатуры і гаварыць нельга. Таму, калі прымаем новых членаў, то папярэджваем: на партфель кіраўніка не разлічвай. Падумай, не спяшайся! Дарэчы, за колькасцю членаў мы не ганяемся, не плануем, колькі рабочых, калгаснікаў прыняць. Галоўнае — свядомасць, пазіцыя чалавека.

Раённая партыйная арганізацыя аб"ядноўвае сёння сем пярвічных — дзве ў горадзе і пяць вясковых. Усяго каля паўтары сотні чалавек. Большасць — былыя члены КПБ. Нядаўна прынялі чатырох новых членаў. Кандыдацкага стажу цяпер не патрабуецца, як і розных анкет. Самы малады камуніст — трыццацітрохгадовы работнік ЦЭЦ Ігар Пракаповіч. Вераць у ідэю роўнасці, справядлівасці і актыўна працуюць дзеля яе інжынер будтрэста № 3 Ю.М.Дзьячкоў, слесар завода "Універсал" А.С.Копцік, пенсіянер М.М.Харчанка. Сярод камуністаў 60 працэнтаў — пенсіянеры, што не можа не зніжаць баяздольнасці партыйнай арганізацыі.

Але В.І.Шчарбін упэўнены, што час прымусіць людзей больш сур"ёзна задумацца над сваёй пазіцыяй, і многія зробяць выбар на карысць камуністаў. Якія абяцаюць ужо не на словах, а на справе ажыццявіць спрадвечную мару людзей, усталяваць роўнасць, свабоду, справядлівасць.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

■ Вось так і жывём

### ЗА МЕСЦА Ў ПАДЗЕМЦЫ

Кожны дзень, калі я спускаюся ў падземку, бачу адну і тую ж карціну: жабрачка з працягнутай рукой каля ўваходу. Твар нізка завязаны хусткай і апушчаны долу, а сядзіць яна не на прыступках /крый божа застудзіцца/, а на маленькім табурэціку, засланым ірванай посцілкай.

Але аднойчы яе месца заняла канкурэнтка. Што тут пачалося! Жанчыны ўчапіліся адна другой у валасы, лаяліся на чым свет стаіць. Прахожыя, якія ішлі на працу, спачатку нічога не маглі ўцяміць. А потым, разабраўшыся, махнулі рукой на вакханалію і зноў заспяшаліся па сваіх справах. Толькі ўволю нарагаталіся маладыя кабеты, якія прадавалі жывыя кветкі ў метро. Яны пад"юджвалі раз"юшаных жанчын, якія працягвалі валтузіцца за сферу ўплыву, кідалі дробныя грошы на зямлю, пацяшаючыся, як тыя адбіралі іх адна ў другой. Агідная карціна!

### ВУЛІЧНАЯ АЗБУКА

Маленькі хлопчык, бедна апрануты, напэўна, першы раз трапіўшы ў горад, наіўна вылупіў вачаняты на негра, які вальяжна вылазіў з машыны.

— Мамка, а мамка, — цягнуў ён за руку вясковую кабету. — Паглядзі, нявольнік, а на машыне катаецца...

— Наглядзеўся фільмаў пра нявольнікаў, вось і ляпеча ўсё што ў галаву ўзбрыдзе, — сумелася маці.

Пажылая жанчына, якая стаяла побач на аўтобусным прыпынку, цяжка ўздыхнула:

— Не вініце хлопчыка. Час мяняецца. Гэты чарнаскуры велікан і да яго падобныя даўно ўжо напісалі на дошцы і ўвасобілі ў жыццё лозунг: "Рабы — толькі не мы..."

### ПАЖАДАЙ КОЖНАМУ ШЧАСЦЯ

Раніца ў жылым шматпавярховым доме пачынаецца з таго, што ў 7 гадзін з аднаго з пад"ездаў выбягае прыгожая дзяўчына ў адным купальніку з вядром вады, напэўна, паслядоўніца П.Іванова. Яна становіцца босымі нагамі на зямлю і задзірае твар да неба, у думках просячы ў Тварца міру і згоды для ўсіх людзей. Затым выліва на сябе вядро халоднай вады. Спачатку ўвесь дом пацяшаўся, гледзячы на гэты рытуал. Затым смех неяк знік. Зніклі і насмешлівыя, падазроныя позіркі. I я зусім не здзівілася, калі да маладой дзяўчыны падышла бабулька і сказала: "Папрасі, дачушка, у Бога цёплага і ўраджайнага лета. Можа, пачуе?"

### КАЗА МАНЬКА І ЛІМУЗІН

Мой сусед у роднай вёсцы прыдбаў "Масквіча". Кожную раніцу ён выкатвае свой "лімузін" на траўку і доўга, любоўна сціраe з яго кожную пылінку. Машына зіхацела нібы люстэрка. Аднойчы я пачула нейкае падазронае бумканне. Выбегла за брамку, а гэта другога суседа каза Манька лупіць што ёсць сілы ў машыну. Аказваецца, яна ўбачыла сваё адлюстраванне і вырашыла памерацца сіламі з падобнай на яе. Выбег і гаспадар, пляснуў рукамі, убачыўшы абдзёртую машыну, а за ім — жонка.

— Бачыш, што нарабіла гэтая шэрая дрэнь, — паскардзіўся ён жонцы. А тая падвяла яго за руку блізка да машыны:

— А яшчэ што бачыш, мілок? — спытала ялейным голасам.

Гаспадар збянтэжана пацісуў плячыма, гледзячы на сваё адлюстраванне.

— Сваю тупасць. Гаварыла: купі лепш карову, а ты далдоніў — машыну, машыну...

Ну што тут запярэчыш? Жанчына заўсёды ва ўсім мае рацыю.

*Ірына АНДРЭЕВА.*

### ЯК ПАЧУЮ МУЗЫКУ ДУХАВУЮ

Багатую праграму прадставіў на занальны агляд школьнай мастацкай самадзейнасці аддзел адукацыі Стаўбцоўскага райвыканкома. Высокае майстэрства паказалі дзіцячы танцавальны калектыў "Вішанька" Вішнявецкай сярэдняй школы, узорны харэаграфічны ансамбль "Лявоначкі" Стаўбцоўскага ГДК, узорны ансамбль танца "Гарошынка" з калгаса "Чырвоны Кастрычнік". Зачароўвалі прысутных выступленні ансамбля народнай музыкі Коласаўскай дзіцячай музычнай школы, баяннага аркестра раённага Цэнтра эстэтычнага выхавання школьнікаў, дзіцячага фальклорнага ансамбля "Медуніца" Навасвержанскай СШ, ансамбля народнай песні "Званочкі" раённага Дома дзіцячай творчасці, ансамбля народнай песні "Бразготкі" дзіцячага садка № 5 г.Стоўбцы. Прадстаўніча выглядалі на аглядзе і духавыя аркестры Стаўбцоўшчыны. Іх тут — тры.

Упрыгожаннем канцэрта было выступленне ўзорнага духавога аркестра Стаўбцоўскага ГДК, якім кіруе выкладчык дзіцячай музычнай школы Уладзімір Курдун. Шмат апладысментаў "сарвалі" юныя духавікі з калгаса "Хотава". Яны выканалі беларускі народны танец "Полька ніўнянская", апрацоўку якой зрабіў іх кіраўнік Р.В.Бець. Гэты духавы аркестр створаны ў 1988 годзе. Раман Вітольдавіч працаваў дырэктарам Дома культуры ПМК-74, якая знаходзіцца ў вёсцы Дзераўная. Калі яму прапанавалі стварыць духавы аркестр у Хотава, ахвотна пагадзіўся. Для ўдзельнікаў аркестра набыта прыгожая форма. Хотаўскія музыкі выступалі на Беларускім тэлебачанні, у многіх гаспадарках раёна.

*Уладзімір АНТОНАЎ.*

